**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 19 (787) 7 траўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

# Са святам 70-годдзя вялікай Перамогі!

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




**Удзельнікі мотапрабегу "Мір і памяць" на мемарыяльных могілках "Барок" запускаюць у неба белых галубоў.**
*Фота Ул. Скрабатуна*

**Па Глыбоччыне ў гонар 70-годдзя вялікай Перамогі прайшоў мотапрабег "Мір і памяць". Байкеры наведалі дзевяць населеных пунктаў раёна, дзе маюцца мемарыяльныя комплексы. Ускладі кветкі і вянкі. У кожнага месца пахавання байкераў сустракалі навучэнцы ўстаноў адукацыі горада і раёна, прадстаўнікі сельвыканкамаў і мясцовыя жыхары. Святары асвяцілі мемарыялы і правялі на іх набажэнства.**



ISSN 2077-8023



Пастаўскі раён

# А жыць за што?

■ Чэслаў Якубовіч.

**У найноўшай айчыннай гісторыі, напэўна, яшчэ не было такога, каб толькі пагаршалася паўсюдна эканамічная сітуацыя.**

Па ўсёй Віцебшчыне штомесяц расце колькасць даўжнікоў па зарплатах, як адзначалася на чарговым пасяджэнні калегіі абласнога Камітэта дзяржкантролю, такія цяпер праблемы ёсць ва ўсіх раёнах, гарадах і ў абласным цэнтры. У адрозненне ад іншых, у Пастаўскім раёне не сталі скажаць рэальную статыстыку аб парушэннях заканадаўства аб працы, але і тут цяжкасці з выплатай заробкаў набылі сістэмны характар. Як і паўсюдна, найбольш цяжкасцей у сельскай гаспадарцы краю, дзе яшчэ перад майскімі святамі ў трох буйных гаспадарках "Камайскі-агра", "Дунілавічы-агра" і "Пастаўскі райаграсервіс" не былі пагашаны лютаўскія даўгі па зарплаце на агульную суму 828 млн. рублёў. Яшчэ больш складаная сітуацыя ўзнікла з выплатай заробкаў вяскоўцам за працу ў сакавіку, у якім былі налічаны ў ведамасцях грошы на суму 4,426 млрд. рублёў. Нават з улікам папулярнай цяпер натуральнай платы на месцах не ведалі, дзе браць палову сродкаў такой сумы. Як выхад, спадзяваліся на авансы пад будучы ўраджай. Добра, што ў раёне ўдалося не дапусціць даўгоў па выплаце дзіцячых дапамог, а ў прамысловасці размінаюцца з людзьмі мясцовы ільнозавод. Аднак ізноў узніклі праблемы па выплатах заробкаў працаўнікам завода ЖБВ і ДАКа ў Варапаеве, а таксама будаўнікам аграбудфірмы "Рассвет Пастаўскі". У цэлым па вобласці ў красавіку колькасць такіх даўжнікоў вырасла да 195 прадпрыемстваў і арганізацый.

Глыбоцкі раён

# У падвешаным стане

■ Кастусь Александровіч

**У працоўных калектываў, як і ў людзей, бываюць розныя перыяды росквіту і сур'ёзных цяжкасцей.**

Незадоўга да свайго 70-годдзя ў найбольш сур'ёзную сітуацыю патрапіў у мінулым адзін з лепшых у галіне Глыбоцкі кансервавы завод, які паспяхова выпускаў штогод да 60-70 найменняў вітамінная прадукцыі. У пачатку новага стагоддзя прадпрыемства стала акцыянерным таварыствам, стала разліваць сокі ва ўпакоўкі "Тэтра-пак", выпускаць у бляшанках зялёны гарох і фасоль. Спадзяваліся тут нарасціць свае магутнасці да больш 20 млн. умоўных бляшанак пасля перайменавання ў ААТ "Купцовъ". Ва ўласнасці дзяржавы знаходзілася да 100 % акцый завода, а назіраў за бягучай дзейнасцю апошнія гады аблсельгасхарч. Аднак з цягам часу справы на прадпрыемстве толькі пагаршаліся, даўгі перад крэдыторамі банкамі, па плацяжах у бюджэт, у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ў глыбачан перавысілі 50 млрд. рублёў. У выніку самі завадчане ў пачатку года звярнуліся з ініцыятывай аб прызнанні сваёй эканамічнай неадпаведнасці (банкруцтва). У выніку лёсам праблемнага завода заняўся Эканамічны суд Віцебскай вобласці, сюды прызначылі антыкрызіснага ўпраўляючага Віктара Пілецкага. Завадчанам далі некалькі месяцаў для закахвання маёмасці, але праз квартал пацвердзілася неплацежаздольнасць прадпрыемства, якая працягваецца ўжо даўно. На пачатак ліпеня гэтага года прызначыў суд першы сход акцыянераў, якія вырашаць, што рабіць далей з ААТ "Купцовъ". Канчатковых варыянтаў, на жаль, няшмат: далейшая санацыя завода, альбо ліквідацыя калектыву з амаль 150 працуючымі, які пачаў сваю дзейнасць яшчэ ў 1946 годзе.

Гарадоцкі раён

# Прыгоды Тараса скончыліся

■ Станіслаў Раманчук.

**Не так і шмат зараз у жыцці большасці суайчыннікаў падстаў для радасці.**

Праўда, жыхароў моцна абноўленага і папрыгажэўшага райцэнтра Гарадок, дзе мінулай восенню правялі з размахам абласныя "Дажынкі-2014", апошнім часам парадавалі некалькі прыемных навін. У мясцовым цэнтры падрыхтоўкі нацыянальных і рэгіянальных каманд па зімовых відах спорту заканчваецца ўзвядзенне плавальнага басейна з даўжынёй дарожак 25 метраў. У ім акрамя біятланістаў і лыжнікаў, якія будуць аднаўляць сілы на вучэбна-трэніровачных зборах, змогуць з карысцю для здароўя плаваць круглы год і мясцовыя жыхары. Футбольная каманда райцэнтра "Прамень", якая замацавалася ў 1-й лізе абласнога першынства, будзе гуляць і трэніравацца на стадыёне з сучасным штучным газонам. Многіх гараджан і жыхароў раёна таксама парадавала, што ў гарадскі сквер вернецца назаўжды іх знакамітая скульптурная кампазіцыя "Тарас на Парнасе". Фігура вясёлага лесніка прастаяла ў горадзе пасля фестывалю-ярмаркі толькі пару месяцаў, была дэмантавана і дастаўлена ў Мінск, бо з аўтарамі не разлічыліся. На шчасце, сталічнае прадпрыемства "Ліцейны двор", якое вырабіла помнік, не стала яго пераплаўляць. Героя славутай паэмы выкупіў спонсар, расійская фірма Юрыя Брагінца "Дзетскасельскі", якая на тэрыторыі раёна набыла раней адну з гаспадарак. Традыцыйнае свята беларускай паэзіі і фальклору "Гарадоцкі Парнас" у пачатку лета пройдзе разам са сваім галоўным героем

Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 07.05.15 | | | | Пятніца 08.05.15 | | | | Субота 09.05.15 | | | | Нядзеля 10.05.15 | | | | Пан. 11.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +9 | +11 | +10 | +10 | +10 | +16 | +11 | +7 | +8 | +15 | +11 | +7 | +12 | +18 | +14 | +12 | +14 | +18 |
| Ціск | 745 | 744 | 744 | 745 | 745 | 746 | 747 | 749 | 750 | 751 | 751 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 752 |
| Вільготнасць | 86 | 93 | 87 | 88 | 89 | 93 | 49 | 69 | 82 | 68 | 48 | 76 | 84 | 69 | 46 | 72 | 78 | 72 | 60 |
| Вецер м/сек | 6 | 6 | 4 | 3 | 2 | 3 | 5 | 2 | 2 | 2 | 4 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 3 | 5 | 6 |
| | Пд-У | Пд-У | Пд-У | У | Пн-У | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | З | Пн | Пд-З | Пд | З | Пд-У | Пд-З | Пд-З | З |

# Аб самым надзённым

## ЭКСПАРТ БЕЛАРУСКІХ НАФТАПРАДУКТАЎ У СУСЕДНЮЮ РАСІЮ СКАРАЦІЎСЯ СЁЛЕТА ЎЖО Ў 2 РАЗЫ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Справа ў тым, што дагэтуль з пачатку года два беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы Наваполацка і Мазыра панеслі страты на суму адзін мільярд долараў. Такая сітуацыя была выклікана не толькі рэзкім зніжэннем сусветных цэн на нафту, але найперш уведзенымі Расіяй падатковымі манеўрамі.**

Напярэдадні майскіх святаў адной з самых абмяркоўваемых тэм у Беларусі стала навіна, ці правільна паступіў кіраўнік дзяржавы, што вырашыў не прысутнічаць 9 мая на ўрачыстасцях у Маскве. А. Лукашэнка патлумачыў, што ён, як Вярхоўны галоўнакамандуючы ў гэты святы дзень будзе прымаць ваенны парад у беларускай сталіцы, а ў белакаменнай пабывае напярэдадні і аддасць даніну павагі воінам-вызваліцелям. Такая пазіцыя, як падаецца, цалкам лагічная і абгрунтаваная, хоць яна выклікала непрыхаваную негатыўную ацэнку ў пэўных колах расійскага грамадства. І сапраўды, палітыка расійскага кіраўніцтва цяпер моцна падтрымліваецца народам, рэйтынг папулярнасці Пуціна зашкальвае, аднак у свеце яна выклікае асуджэнне, што пацвярджае колькасць уплывовых сусветных лідараў, якія праігнаравалі запрашэнне быць на ваенным парадзе. Беларускі лідар робіць усё правільна, бо ў нас самастойная краіна і цяперашнія эканамічныя цяжкасці нам і таксама эканоміцы Казахстана прынеслі рускія "зялёныя чалавечкі" і санкцыі з-за неаб'яўленай вайны Крамля з Украінай. Да таго ж і ў бягучым годзе паміж Расіяй і яе саюзнікамі па Еўразійскім эканамічным саюзе працягваюцца гандлёвыя войны. Свежы прыклад: рускія ветэрынары зноў знайшлі нейкія шкодныя рэчывы ў мясе птушкі на сучасным мясакамбінаце буйнейшага айчыннага агрaхолдынга "Дзяржынскі", які зімой пільна правяралі і ніякіх прэтэнзій не было. Хутчэй усяго, гэта рэакцыя расіян на першы афіцыйны візіт главы Беларусі ў Грузію і цвёрдая падтрымка яе тэрытарыялнай цэласнасці.

Беларускія калійшчыкі сёлета нарошчваюць экспартныя пастаўкі за мяжу, а той жа наш канкурэнт "Уралкалій" прайграе, застаецца без выгадных кантрактаў. Тым часам, не будзем забывацца, што ўжо трэці год запар змяншаецца наш знешнегандлёвы абарот менавіта з Расіяй, якая адчула сур'ёзны крызіс, рост беспрацоўя да 6 %, падзенне заробкаў і скарачэнне бюджэтных расходаў. Многія ачмураныя расійскімі тэлеканаламі суайчыннікі думаюць, што гэта моцная эканамічна дзяржава, аднак гэта – міф. Да 80 % даходаў Крамлю штогод прыносяць нафтагазавы сектар ды яшчэ продаж ваеннай зброі, а ў астатнім гэта вялікая па памерах і адсталая тэхналагічна краіна ад Смаленска да Курыл – дзяржава "трэцяга свету" толькі з ядзернымі ракетамі.

Таксама напрыканцы красавіка Беларусь зноў прыпыніла пастаўкі нафтапрадуктаў спажыўцам у Расіі. Справа ў тым, што дагэтуль з пачатку года два беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы Наваполацка і Мазыра панеслі страты на суму адзін мільярд долараў. Такая сітуацыя была выклікана не толькі рэзкім зніжэннем сусветных цэн на нафту, але найперш уведзенымі Расіяй падатковымі манеўрамі. Атрымоўваецца, што менавіта Крэмль перашкаджае стварэнню паўнацэннай і раўнапраўнай эканамічнай прасторы і зоны свабоднага гандлю. Нагадаем, што пакуль у рамках праславутага ЕАЭС, куды Беларусь па-сутнасці летась прымусілі ўступіць, зараз толькі 66 % тавараў і трэць паслуг рэалізуюцца свабодна.

Тым часам на гэты год наша краіна мае абавязацельствы паставіць на расійскі рынак 1,8 млн. тон нафтапрадуктаў. Калі летась іх продаж ішоў актыўна, то сёлета іншы малюнак. У сакавіку цэлы месяц беларускія НПЗ зусім бензін і салярку ў Расію не пастаўлялі, чакалі, што пройдуць перамовы з саюзнікамі, каб беларусы мелі нейкі даход ад такой дзейнасці. Аднак нармальнай кан'юнктуры цэн нам не ўдалося дабіцца і ў выніку аб'ёмы паставак нафтапрадуктаў рускім спажыўцам зменшыліся ў 2 разы, а ў доларах Беларусь зарабіла меней на 70,1 % у параўнанні з адпаведным перыядам 2014 года. У сваю чаргу пакрыўджанае Мінэнерга РФ прыгразіла, што ў расіян у такім выпадку ёсць прававая аснова прыпыніць пастаўкі "чорнага золата" нашым заводам.

І ўвогуле складваецца такое ўражанне, што планы крамлёўскіх стратэгаў прыдбаць да рук абодвух саюзнікаў шляхам увядзення агульнай валюты сустракаюць адпор. Адзін з упраўленцаў казахскага ўрада рашуча абверг такую перспектыву. Услед за гэтым пазіцыю нашай краіны публічна агучыў былы прэм'ер-міністр, цяпер спікер верхняй палаты парламента М. Мясніковіч: у гэтым млявым саюзе ЕАЭС, па ягоных словах, агульныя грошы азначаюць страту суверэнітэту, калі намі будуць поўнасцю камандаваць, як жыць, з Масквы.

Адносіны Расіі з астатнім светам, не лічачы Кітай і іншых азіяцкіх дзяржаў, яўна не складваюцца. Найбольш моцная краіна ЗША і не думае адмяняць балючыя для расіян санкцыі. Пакульскі рускія ястрабы не збіраюцца выводзіць сваіх ваенных з Данбаса, наадварот зноў сцягваюць да ўкраінскай граніцы свае войскі, то і Еўрасаюз у бліжэйшы час таксама не адменіць эканамічныя санкцыі. Нават майскі саміт ЕС дзяржаў-партнёраў "Усходняга партнёрства" ў Рызе выклікае раздражнёную, калі не сказаць болей, ацэнку расійскага МЗС. У такіх вось абставінах, перспектывы ў Беларусі наконт цесных саюзных адносін з Расіяй яўна прабуксоўваюць.

## Дзень за днём

**Па краіне праходзяць шмат мерапрыемстваў з нагоды 70-годдзя Вялікай Перамогі. І да беларусаў дабраўся сур'ёзны эканамічны крызіс, у І-м квартале спад ВУП склаў 2 %, чаго не назіралася 18 гадоў. Ужо 36 % прамысловых прадпрыемстваў Беларусі сталі стратнымі. Масвыя неплацяжы могуць адкінуць Беларусь у сярэдзіну 1990-х гадоў. У сярэдзіне мая па ўсёй краіне адключаць эфірнае аналагавае тэлебачанне. Большасць беларускіх байкераў адмовіліся ўдзельнічаць у мотапрабегу па Еўропе пракрамлёўскіх "Начных ваўкоў". Сёлета выпускныя экзамены ў школах будуць без накрытых кветкамі, мінералкай і цукеркамі сталоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Люксембург.** ЕС зацвердзіў пакет тэрміновых мер, накіраваных на частковае вырашэнне крызісу з нелегальнай міграцыяй па моры з Афрыкі і гібелі каля 2-х тысяч чалавек.

**Бельгія.** Генсек НАТА Енс Столтэнберг прызнаў, што з ваенных баз альянсу ў Румыніі і Польшчы немагчыма пакуль эфектыўна знішчаць расійскія міжкантынентальныя ракеты.

**Казахстан.** Урад краіны, як пацвердзіў віцэ-міністр эканомікі Ц. Жаксылыкаў, выключыў магчымасць увядзення агульнай наднацыянальнай валюты ў рамках ЕАЭС.

**Літва.** Падчас візіту главы МЗС Германіі Ф. Штайнмайер заявіў аб правале палітыкі Пуціна раскалоць Еўропу, пазіцыя 28 дзяржаў ЕС адзіная накont анексіі Расіяй Крыма.

**Бельгія.** Еўракамісія прад'явіла расійскаму манапалісту "Газпраму" абвінавачванні ў завышэнні цэн і стварэнні перашкод для свабоднай канкурэнцыі на рынку газу.

**Украіна.** Міністр фінансаў Наталля Ярэська аб'явіла аб пачатку кардынальных перамен у дзяржструктурах, карэннае абнаўленне ДАІ, спрашчэнне працэдур вядзення бізнэсу.

**Грэцыя.** Аналітыкі агенцтва S&P яшчэ больш знізілі крэдытны рэйтынг краіны да ўзроўню ССС+ з негатыўным прагнозам і непакояцца за плацежаздольнасць грэкаў.

**ЗША.** Прадстаўнік Дзярждэпартамента Мары Харв заявіла, што ёсць доказы прысутнасці расійскіх ваенных на ўсходзе Украіны, яны камандуюць баевікамі, вучаць артылерыстаў.

**Украіна.** Пасля прыбыцця амерыканскіх ваенных інструктараў 173 брыгады для навучання ўкраінскай арміі Крэмль адразу прыгразіў дэстабілізацыяй сітуацыі ў Данбасе.

**Сербія.** Толькі дзякуючы майстэрству лётчыка не разбіўся з-за адказу аднаго з рухавікоў на вышыні 10 км самалёт прэзідэнта Т. Нікаліча, прыйшлося адмяніць візіт у Ватыкан.

**Англія.** Вядомы рускі пісьменнік Барыс Акунін заявіў, што яго краіна быццам акупіравана зараз ворагам, а галоўная праблема не ў асобе Пуціна, а ў мазгах насельніцтва.

**Расія.** Былы памочнік Б. Ельцына палітолаг Г. Сатараў назваў самай сумнай і далёкай ад рэальнага становішча спраў у краіне апошнюю пастановачную прэс-канферэнцыю Пуціна.

**Чэхія.** Пасля лавіны крытыкі ў грамадстве прэзідэнт Мілаш Земан заявіў, што ў Маскву ён паедзе, але на ваенны парад 9 мая не пойдзе, свята ігнаруюць лідары ўсіх дзяржаў ЕС.

**Расія.** Хоць Крэмль паставіўся "з разуменнем", расійская прапаганда стала цкаваць саюзніка, главу Беларусі А. Лукашэнку за яго адмову прысутнічаць 9 мая ў Маскве.

**Англія.** У храме св. Мары ў Лондане прайшла цырымонія развітання з памерлым беларускім грэка-каталіцкім святаром, вучоным і грамадскім дзеячам А. Надсанам.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Л. Заіка спрагназаваў, што А. Лукашэнка выйграе выбары дзякуючы падзеям ва Украіне і тэзісу, што вайны, як там, у нас не будзе.

**Салігорск.** З гэтага года "Беларуськалій" аднавіў пастаўкі калійных угнаенняў у ЗША, аб'ёмы адгрузкі калію спажыўцам у свеце выраслі на 25 %, а пазіцыі Расіі аслабелі.

**Мінск.** Старшыня Савета Рэспублікі М. Мясніковіч заявіў, што ў сённяшняй млявай сітуацыі ў ЕАЭС увядзенне адзінай валюты пагражае стратай суверэнітэту Беларусі.

**Дзяржынск.** Расійскія ветэрынары зноў выявілі нібыта ўзбуджальнікаў вострай кішэчнай інфекцыі – сальманел у мясе птушкі з мясцовага агракамбіната, буйнейшага ў краіне.

**Мінск.** Вядомы фінансавы аналітык В. Іосуб заявіў, што адтэрміноўка Расіі для Беларусі па выплаце даўгоў сёлета вельмі станоўча паўплывае на айчынную эканоміку і ЗВР.

**Маладзечна.** На мясцовым харчовым камбінаце выпусцілі пробную партыю замарожанага бярозавага соку, ён стаў вельмі папулярным у жыхароў Англіі і ЗША.

**Барысаў.** Вярхоўны суд Беларусі змяніў прысуд 3 гады турмы былому гендырэктару "Барысаўдрэва" У. Мальцаву за нібыта лабіраванне інтарэсаў турэцкай кампаніі.

**Мінск.** А. Лукашэнка паабяцаў да канца года пасля маніторынгу сітуацыі выправіць магчымыя недахопы дэкрэта № 3 па барацьбе з дармаедамі, каб не пацярпелі чэсныя людзі

**Салігорск.** На буйнейшай швейнай фабрыцы "Беллегпрама" ААТ "Купалінка" звольняць яшчэ 102 работніц, летась было 70, склады перапоўнены гатовай прадукцый на 17 млрд.

**Астравец.** У райцэнтры завяршаюць узвядзенне першага з трох новых мікраёнаў на 7,7 тысяч чалавек, тут здалі гімназію на 500 вучняў, детсад для 190 дзетак, будзе Дом гандлю.

**Магілёў.** Пасля прызнання ААТ "Магілёўрамбыттэхнікі" банкротам звольнілі апошніх 60 яго работнікаў, маёмасць і нерухомасць сталі распрадаваць, каб вярнуць усе даўгі.

**Мінск.** Сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва В. Маргелаў папярэдзіў, што да канца года да 10 тысяч прадпрымальнікаў зменяць характар дзейнасці.

**Гомель.** Толькі за заклік да салідарнасці з Украінай Маскоўскі акружны ваенны суд асудзіў на 2 гады калоніі-пасялення 22-гадовага беларуса праграміста Кірылу Сілівончыка.

**Ганцавічы.** Падатковая інспекцыя абавязала беспрацоўнага жыхара райцэнтра выплаціць 25 млн. рублёў за купленую кватэру за грошы, якія ён пазычыў у знаёмых з Расіі.

**Лельчыцы.** У райбальніцы памерлі ад моцных апёкаў трое рабочых мясцовага ПМС ад траўм падчас пажару ў аўтафургоне, які падпаліў падчас п'янай спрэчкі іх калега.

# Уцёкі ад «дармаедства»: у Беларусі расце колькасць рамеснікаў і хатніх працаўнікоў



■ FINANCE.TUT.BY

**Колькасць фізічных асоб, якія ажыццяўляюць віды дзейнасці па заяўным прынцыпе, гэта значыць без рэгістрацыі ІП, у параўнанні з першым кварталам мінулага года вырасла ў 2,4 разы. Пра гэта паведамляе прэс-служба Міністэрства па падатках і зборах.**

Паводле дадзеных Міністэрства па падатках і зборах, такіх грамадзян на 1 красавіка 2015 г. налічвалася 8,1 тысячы чалавек. Гаворка ідзе, напрыклад, пра рэпетытараў, хатніх працаўнікоў, тых, хто абслугоўвае вяселлі і юбілеі і гэтак далей.

На 1 красавіка 2014 такіх грамадзян было зарэгістравана крыху менш 4,7 тысячы чалавек.

Акрамя гэтага, як паведамляе Міністэрства эканомікі, у краіне расце і лік рамеснікаў. Так, у першым квартале бягучага года ў цэлым па рэспубліцы зарэгістравалася 4070 новых рамеснікаў, што складае 46% ад агульнай колькасці фізічных асоб, якія ажыццяўлялі рамесную дзейнасць у 2014 годзе. Больш за ўсё новых рамеснікаў з'явілася ў Мінску - 954 чалавекі.

Нагадаем, у гэтым годзе ў Беларусі быў прыняты прэзідэнцкі дэкрэт аб так званым дармаедстве. Дакумент абавязвае тых, хто доўгі час не працуе, выплачваць падатак у памеры 20 базавых велічынь. Не выключана, што такая актыўнасць грамадзян па рэгістрацыі відаў дзейнасці і рамесніцтва звязана менавіта з прыняццем гэтага дакумента.

Праўда, пры гэтым варта памятаць, што калі беспрацоўны грамадзянін зарэгістраваўся як рамеснік ў гэтым годзе, то ад выплаты збору яго гэта не вызваліць.

«Ад выплаты збору могуць быць вызваленыя толькі асобы, якія ажыццяўлялі ў 2015 годзе рамесную дзейнасць і выплацілі збор за ажыццяўленне рамеснай дзейнасці не пазней 28 снежня 2014-га», - тлумачаць у Міністэрстве па падатках і зборах.

Што тычыцца фізічных асоб, якія з'яўляюцца плацельшчыкамі адзінага падатку (гэта значыць рэпетытары ці хатнія работнікі), то яны не будуць плаціць збор «на дармаедства», толькі калі за год заплацяць падаткаў на суму не менш за 20 базавых велічынь. Калі падаткаў заплацілі менш, прыйдзецца даплачваць.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля рашэння аб ліквідацыі ААТ "КІМ" глава вобласці М. Шарстнёў сустрэўся з калектывам і даручыў гарвыканкаму дапамагчы з працай звольненым работнікам.

**Орша.** Наа ўкцыёне фонд "Віцебскаблмаёмасць" прадаў вытворчую базу з 11 будынкаў былой мясцовай ільнопрадзільнай фабрыкі "Днепр" плошчай амаль 20 тысяч кв. метраў.

**Глыбокае**. Глава вобласці М. Шарстнёў пацвердзіў, што на базе раёна неўзабаве створаць аграхолдынг, яго гадавая выручка ад продажу мяса, малака, камбікорму дасягне 2 трлн.

**Шуміліна.** Абласны інавацыйны фонд выдзеліў 59 млрд. рублёў Обальскаму керамічнаму заводу на закупку абсталявання для выпуску новай цэглы пластычнага фармавання.

**Віцебск.** Па цэрквах горада і вобласці сталі распаўсюджваць газету епархіі "Наше православие" з заклікамі да праваслаўных байцоў ваяваць за баевікоў "ДНР" і "ЛНР".

**Талачын.** Коханаўскі завод, філіял ААТ "Амкадор-КЭЗ" упершыню пачаў пастаўкі сваіх экскаватараў, укладчыкаў дрэнажу ЭТЦ-203 для меліярацыйнай фірмы з Латвіі.

Браслаў. **Мясцовы рыб**завод "Браслаўрыба" заключыў 18 новых дагавароў на адгрузку кансерваў спажыўцам у Беларусі, тут ствараць і 4-ю брыгаду перапрацоўшчыкаў рыбы.

**Полацк.** З удзелам міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі М. Шчоткінай у горадзе прайшла выязная калегія абласнога ўпраўлення па працы і занятасці насельніцтва.

**Віцебск.** Па рашэнні гарвыканкама ў абласным цэнтры неўзабаве з'явіцца вуліца імя Рыгора Барадуліна, першая ў Беларусі, якую назвалі ў гонар паэта.

**Паставы.** У райцэнтры асабісты прыём 10 грамадзян правёў старшыня Канстытуцыйнага Суда Беларусі Пётр Міклашэвіч, большасць зваротаў людзей займалі жыллёвыя пытанні.

**Ушачы.** Віцебскі аблспажыўсаюз выдзеліў сродкі на тэхпераўзбраенне мясцовага агароднінасушыльнага завода і выпуск безалкагольных напояў у ПЭТ-бутэльках.

**Докшыцы.** Падчас затрымання ва ўрочышчы Стараселле невядомы браканьер змог уцячы, ён кінуў у меліярацыйны канал незарэгістраваную вінтоўку з глушыцелем.

**Шуміліна.** Указам прэзідэнта ў асуджанага на 8 гадоў турмы за хабар былога пракурора раёна Я. Гуляева адабралі дзяржузнагароду, медаль "За бездакорную службу" III ступені.

**Віцебск.** У адной з клінік Дзюсельдорфа пасля завяршэння курсу лячэння раку лёгкіх памёр 56-гадовы ураджэнец горада, знакаміты кінаакцёр Генадзь Венгераў.

**Полацк.** Міліцыя затрымала 37-гадовага мясцовага беспрацоўнага, які ў сваім доме ў двух пакоях стварыў сапраўдную лабараторыю па вырошчванні каноплі для наркотыкаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Альфрэда Глухоўская: У нас была простая дружная сям'я


Альфрэда Глухоўская

**Альфрэда Іосіфаўна Глухоўская (у дзявоцтве Грудзінская) нарадзілася 26 жніўня 1926 года ў калоніі Драбенкі Порплiскай гміны Дзісенскага павету Віленскага ваяводства.**
**Узімку жыве ў дачкі ў Глыбокім, улетку шчыруе ў Двары Порплішча на сваіх дзялках: капуста, буракі, морква, бульба.**
**Аўтар гэтых радкоў не мог прамінуць, каб не сустрэцца з чалавекам, які мае такі паважаны ўзрост. Неўзабаве ж – 90-гадовы юбілей!**

### Жылі мы раней добра!

– За "польскім часам" жылі мы добра. Драбенкі, дзе я нарадзілася, былі не вёска, а "колёнія"[1], – кажа спадарыня Альфрэда.

– Сямёра нас было ў бацькоў. Зямлі мелі няшмат, усяго 30 гектараў. Былі і коні, і каровы. Усяго было! Яшчэ тады з намі бацькавы бацькі жылі разам у адной хаце, дапамагалі нам. Конь у нас быў такі стаенны, у касцёл на ім ездзілі ў Докшыцы і Парфенава[2]. Там у Парфенаве потым і пахавалі сваіх дзядоў. Вазілі іх туды хаваць на конях.

Усю зямлю сам бацька апрацаваць не мог, то тады наймаў дапамогу. Бульбу выбраць, жыта зжаць. Гэта былі людзі з бліжэйшых вёсак. Іх не крыўдзілі, сябравалі, ды яны й не крыўдзіліся, радыя былі, самі больш наймаліся. І служанкі ў нас былі, бо мацi адной цяжка было дагледзець сямёра дзяцей. У нас была простая дружная сялянская сям'я.

***– Выпадкова Вашая сям'я не шляхтай была? Наёмныя работнікі, служанкі…***

– Не! Не шляхта! Але не зусім і мужыкі! Праўда, і самі ж – земляробы, хоць часам наймалі дадатковую рабочую сілу.

Прыходзілі да бацькі яго сябры, настаўнікі, паліцыянты… Тады ж не так было як цяпер – дзе дарослыя, там і дзеці. Мы трымаліся стараны!

Як пачалася вайна – немцы напалі на Польшчу – усіх мужчын мабілізавалі. Мабілізавалі і бацьку, хоць не быў ён кадравым ваенным. Вось тады мы засталіся першы раз без бацькі. Пайшлі на вайну і дзядзька, які побач жыў, і пляменнік бацькі. Яго дзеці, якія засталіся пры бабулі, – тры дзяўчынкі – прыйшлі жыць да нас. Працавалі ўсе.

### Кулак? У Сібір!

– Потым прыйшлі бальшавікі, прыйшлі ціха… Усталі раніцай – ужо не палякі, а бальшавікі. Бацька ж, неўзабаве, вярнуўся з польскай арміі.

Наша сям'я патрапіла ў спіс на раскулачванне. Забралі бацьку бальшавікі. Куды, як, і за што?– нам не сказалі. Ніякага суду не было! Перадаў нам хтосьці: ён – у Беразвеччы. Запрэг старэйшы брат каня і паехаў з маці. Але ніхто яго ім там не паказаў. І ці быў ён ужо там? Звезлі бацьку бальшавікі аж у Сібір… Нашу тут адну сям'ю таксама вывозілі… Эшалоны ў Крулеўшчыне стаялі. Усіх – у Сібір. І сястру бацькаву звезлі.

Нам ужо праходу не было! – Вы – кулакі!– казалі некаторыя. – Знішчаць такіх трэба!

Багатымі ж лічылі! Лясок наш высеклі! Забралі палову зямлі. Пакінулі толькі 12 гектараў. Мама, усё ж, паволі, працавала на ёй. Трэба ж было неяк жыць.

Ведалі мы, што ўся нашая сям'я занесеная ў спіс на вываз у Сібір. Рыхтаваліся, можна казаць, – сядзелі на клунках – і чакалі з дня на дзень. Але нам пашанцавала – не вывезлі, бо прыйшлі немцы.

### Як прыйшлі немцы, адразу з'явіліся партызаны

– Як пачалася вайна з немцамі – скончыла тры класы, перайшла ў чацвёрты. Пры немцах мужчын у нас не было – хто застаўся ў Польшчы, хто на вайне, каго раней бальшавікі вывезлі ў Сібір... Самі апрацоўвалі зямлю.

Хто меў коней і бароны – таксама немцы, штораніцы, загадвалі баранаваць дарогу Крулеўшчына-Докшыцы, бо з'явіліся партызаны, якія пачалі мініраваць шляхі. Конь – па дарозе з бараной, сам з лейцамі – водзаль па полі. За кожным дваром – свой участак. Баранаваў і мой брат Альфрэд, які ўжо быў сапраўдным хлапцом.

Калі ж немцы наязджалі ў вёску – партызаны не прыходзілі. Партызанаў жа цікавіла чыгунка, якая тут, праз Порплішча, і праходзіла. Немцы ўсталявалі бункер, сачылі за чыгункай, каб партызаны яе не ўзарвалі. Асвятлялі цемру ўночы пражэктарамі.

### Былі партызаны правільныя, а былі і няправільныя

– Жылі мы ад чыгункі блізка, усяго тры вярсты… Немцы пільна ахоўвалі яе. У нас, каб – абы ціха! Свет у хатах нельга паліць уночы! Запаліш – дапамога партызанам! Ну, усё тады! Ды й, зрэшты, і запальваць не было чаго. То немцы нас не чапалі, хоць калі і сабака загаўкае. Прыйдуць немцы ў вёску – мы ціха сядзім. Дзе цішыня – тым людзям у вёсках немцы давяралі.

А ўночы прыходзілі партызаны, ды ўжо ж як застукаюць, заляпаюць, загрукаюць у дзверы, як пачнуць мацюкамі лаяцца! Усё перавернуць! Заберуць дарэшты, да апошняй лыжкі. Дык мы болей баяліся "партызанаў", чым немцаў. Каб яны былі сапраўдныя партызаны, дык людзей не чапалі б. Гэта былі звычайныя мясцовыя п'яніцы і басота!

А былі ж і іншыя партызаны! Сапраўдныя, якія змагаліся з немцамі. Добрыя і разумныя людзі! Яны ведалі вёскі, ведалі там людзей. Узімку прыходзілі ва ўсім белым. Прыходзілі ціха, людзей не чапалі, нават не размаўлялі. Прыйдуць, пагладзяць сабаку, каб не брахаў. Дужа любілі нашага сабаку. Заходзілі не рабаваць людзей, а ўзрываць чыгунку. Паўзлі да чыгункі, бо немцы ўсё наўкола асвятлялі пражэктарамі. Узарвуць чыгунку ці бункер – вяртаюцца, перапранецца ў вёсцы – узімку мокрыя белыя масхалаты на сухое адзенне – і пойдуць далей. Мама нават дапамагала партызанам сушыць мокрае адзенне.

Мы хоць і малыя былі, але добра ўжо навучыліся адрозніваць партызан добрых ад благіх. Мы гэта адчувалі нутром. Усё бачылі на свае вочы. Сапраўдныя партызаны, між іншым, былі добра забяспечаныя, ім ад людзей нічога не патрэбна. Можа ім усё самалётам даставалялі? – гэтага я не ведаю.

З басотай – бяда! Прыйшлі неяк. Сабака наш загаўкаў. Пекны быў сабака! Застрэлілі наўпрост у хаце! На нашых вачах! Колькі плачу нам было. Сядзім мы, сямёра малыя, на печы ў страху, аж панос бывае прыхваціць! Усё крышаць, ламаюць. Да сценкі маму ставяць! І ўжо страляць будуць! Давай ім і тое, і тое, ды гэтае! Але ж мы маўчалі, бо, крый Божа, лямант пачуюць немцы! Расстраляюць за дапамогу партызанам, хоць тыя "партызаны", насамрэч – басота і рабаўнікі. Ад іх ніякай карысці!

Некаторыя далейшыя ад нас вёскі фарсілі сваімі "партызанамі". Там яны найбольш і размнажаліся! Туды потым і прыходзілі немцы – палілі і забівалі.

У нас людзі разумныя былі! У Шантарах, Двары Порплiскім. Розныя людзі, з розным дабрабытам, яны хоць не ішлі ў партызаны і да немцаў служыць, але маўчалі, нікога не выдалі: яны – нас, а мы – іх. Каб немцы ведалі, што насамрэч тут адбываецца – нас бы даўно не было!

Аднойчы мы ўсё ж ледзьве не патрапілі ў бяду. Ішла дзяўчынка дарогай з Замошша ў Порплiскі Двор да сваякоў... Міна парвала яе ў шматкі! Калі ж ля вёскі ўзрываецца міна – адказнасць нясе ўся тая вёска. Наехалі немцы! Выратаваў вёску Фларыян Глінскі з Драбенак, які меў давер у немцаў і размаўляў па-нямецку. Ён растлумачыў немцам, што ёсць правільныя партызаны, а ёсць няправільныя. Міну паставілі няправільныя, каб падставіць жыхароў вёскі. Пранесло!

Фларыян потым жыў у Глыбокім, гады два таму як памёр...

Кароў, коней і свіней хавалі ад такіх "партызанаў" у немцаў. Пераводзілі статак праз чыгунку – немцы дазвалялі, прапускалі перайсці яе. Ніколі не чапалі. Ездзілі і на кані раненька. А зімой на санках вазілі ежу. Там, у тых людзей, у іх хлявах і гадавалі сваіх свіней. Па той бок чыгункі – "партызанаў" у вёсках не было. Па чыгунцы ж хадзіць нельга. – Міны, міны!– крычалі, махалі рукамі, немцы. Па ўзбочыне – можна. У Порплішчы была нямецкая камендатура. Ого!

Там можна было наняць на працу і рускіх палонных салдат. Немцы давалі.

***– Дзіўна! І яны не збягалі ў лес да партызанаў?***

– Не! Мы былі за іх адказныя! Не ўцякалі. Федзю таго помню – працаваў у нас, мы кармілі, начаваў. Скончыў працу – забралі яго ад нас немцы. Не было каня? Можна выпісаць у немцаў!

Пры немцах мы ўжо наведвалі не докшыцкі, а порплiскі касцёл. Яго ж нядаўна тады пабудавалі.

### Забойства Фабіяна Парчынскага

– Што ўжо вырабляла тая басота! Свята было – памятаю. Тройца. Прыйшлі ў суседнюю вёску, зайшлі да Фабіяна Парчынскага. Хата – маленькая, старая. Людзі бедныя жылі. І каровы ў іх не было! Жылі яны і пры палях бедненька. Жонка для заробку шыла ўсім вяскоўцам кашулі...

Пачалі "партызаны" забіраць адзенне ў Парчынскіх. Адзенне ж было не іхняе, а чужых людзей – пашытае жонкай. Фабіян не дазволіў забраць! Яго наўпрост у хаце і застрэлілі. Кулю ў лоб – за кашулю! Адзенне забралі. Так і сышло б ім з рук, але ж забілі чалавека!

Дзеці – у плач! Уся вёска абураная! А тут – немцы! Заходзяць у хату. – Партызаны бацьку забілі!– жаляцца дзеці. Немцы – у пагоню!

Гэтая шантрапа згубіла ўсялякую пільнасць! Куды ёй да сапраўдных партызанаў! Тыя ж ніколі не падстаўлялі людзей і самі не траплялі ў рукі да немцаў.

Напілася басота ў вёсцы! Прыехалі немцы і пералавілі ўсіх гэтых "партызанаў" у Слабадзе.

Сабралі немцы ўсіх вяскоўцаў і маму маю таксама. Ляжаць нарабаваныя рэчы. І чаго там толькі не было! Пытаюцца ў людзей: дзе і чые рэчы? Мама прамаўчала, хоць там былі і нашыя рэчы, якія скралі "партызаны" – адзенне, якое сушылася на гарышчы, бо прамокла ў яме-сховішчы. Але лепш прамаўчаць, а то расстраляюць за дапамогу партызанам. Ды й адзенне тое не так ужо і было нам патрэбнае, бо бацька быў у высылцы.

– Нічога ў нас не забралі, ніхто да нас не заходзіў,– сказала маці.

Скажаш немцам, што забралі, то заўтра прыйдуць гэтыя "партызаны" і заб'юць ужо яны. Але некаторыя іншыя людзі забіралі сваё.

Помню, як сыходзілі немцы. Сыходзілі яны пад свіст куляў з боку Докшыцаў. Мы ж хаваліся ў падвалах.

### Калгас арганізавалі – усё ў нас забралі

Як пачалі ў 1947 годзе арганізоўваць калгас – усё ў нас забралі: і коняў, і ток, і свіран… Пазбавілі нас усяго. Адна наша мама засталася з намі – з дзятвой. Хадзіць у калгас маглі толькі мама і старэйшая сястра. А потым вярнуўся бацька з Сібіры. Зусім састарэлы і хворы.

Тады ж нейкі загад быў – усіх "палякаў" вяртаць у Польшчу. Сястра бацькава была замужам за "палякам" – адразу паехала з дзецьмі ў Польшчу. Бацька ж вярнуўся на Беларусь. А мы ўжо сталіся амаль як жабракі.

Сталі мы больш дарослымі і пайшлі працаваць у калгас. Працаваць мы былі прывучаныя змалку, дапамагалі маці апрацоўваць зямлю, умелі жаць, рваць лён, бо надоўга засталіся без бацькі. Але ж і ў калгас бралі не адразу, пакуль не пакінулі нам 25 сотак, забралі двух коняў, а ўсе нашыя гаспадарчыя прылады не звезлі ў калгас на склад.

Начальнікамі ў калгасе былі якраз тыя людзі, якія нічога не здалі ў калгас. І, ён ужо – начальнік! Ужо прыходзіць да нас: вы тое пахавалі, вы гэтае пахавалі! Што мы пахавалі? Усё ж на відавоку! Бярыце! І гэты начальнік, які перад тым нічога свайго не меў, пачынаў цяпер багацець! А ў сельскай гаспадарцы ён нічагошанькі не разбіраўся!

***– Я так зразумеў, што колішняе гультайё, якое ніколі нічога не рабіла, цяпер дарвалася да ўлады? Гэтак званая беднота? Хто быў нічым, той стаў усім?***

– Так! Каб усё тое, што яны забралі ад людзей, аж да апошняга кола ад воза засталося ў гаспадароў – была б добрая і моцная гаспадарка. Аднак тое, што ў калгас звезлі ў кучу: хамуты, плугі, бароны – што пакралі, што згніло, звялі ўсіх коняў. Разграміць і згнаіць усё – гэта яны добра ўмелі. Ставілі начальнікамі якраз тых гультаёў, якія і займаліся раскулачваннем.

Дапамагаючы маці, мы часта хадзілі ў порплiскую краму… Стаім разам з усімі ў чарзе за газай[3]. Падыходзіць наша чарга – газа для нас скончылася! Хто гэта рабіў? Мясцовыя! Маўляў, вось вы раней добра як жылі! Пажывіце цяпер бедна! Ну й прыдзем мы дадому ціхенька...

У калгасе жыццё было дрэнь! Нічога не мелі. Атрымлівалі за працу толькі ў канцы года. Абавязковыя 120 працадзён за год мусіш выпрацаваць. Калі зможаш – працуй і больш. За працадзень – 15 капеек! Пад новы год маглі даць па 600 грамаў зерня на працадзень.

Выйшла замуж за хлопца Вітольда... Ніякіх дэкрэтных для жанчынаў не было. Нарадзіла? Ідзі працаваць! Ніхто не адпусціць дзіця даглядаць. Мусіць у цябе ісці працаваць. Дык маці пойдзе адпрацуе працадзень ды запіша на мяне. Дык той працадзень яшчэ не кожны здолее адпрацаваць. Жалі сярпамі. Брыгадзір жа працадні абмераў.

Народу тады жыло шмат! Скудуці, Сабары і Двор Порплiскі – адна брыгада. Вельмі шмат у калгасе працавала моладзі. Пекна было глядзець, як мужчыны з трох вёсак косяць, а потым жанчыны з трох вёсак – граблямі пераварочваюць сена. Потым возяць сена вазамі. Усе так стараліся выпрацаваць працадзень!

Потым, у 1959 годзе, з калгаса зрабілі саўгас. Жыццё пакрысе, пакрысе, стала лепшым. Больш ужо зараблялі. Плацілі кожны месяц. Пры саўгасе мы не бедавалі. Ды й свае 25 сотак, кабаноў гадавалі. Зусім іншае жыццё стала. А з калгаса куды ты выедзеш? У саўгасе ты ўжо – рабочы! Больш вольны чалавек! Можаш запісацца толькі на сезонныя работы, а іншы час дома сядзець. У саўгасе – больш тэхнікі, а што калгас – аралі конямі!

Жылі мы ўсе ў саўгасе дружна, усе былыя крыўды забыліся. Да пенсіі ўжо, за выхаванне кожнага дзіця, давалі 3 гады. У 1981-м у 55 гадоў я пайшла на пенсію.

***

Цяпер, улетку, жыву ў Порплiскім Двары, саджу, палю, вырошчваю... На сваёй зямлі! Якую некалі ў нас многіх аднялі, за якую вывозілі ў Сібір, а сёння яна ўжо мала каму патрэбная!


Порплішча. Касцёл Маці Божай Каралеўны Кароны Польскай. Канец 1930-х гг. (У гады незалежнай Беларусі – адноўлены).

1. "Колёнія" – земляробчае паселішча.
2. Парфенава – варыянт назову вёскі Параф'янаў.
3. Керосин (русск.)

# У Шаркоўшчыне адкрылі помнік святару Канстанціну Жданаву



**Айцец Канстанцін быў па-зверску замучаны бальшавікамі ў 1919 годзе.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

Адкрыццё помніка адбылося 29 красавіка. Напачатку ў двух праваслаўных храмах мястэчка прайшлі ўрачыстыя богаслужэнні, затым з кожнай царквы насустрач адзін аднаму выйшлі хросныя хады. Яны сустрэліся на цэнтральнай плошчы Шаркоўшчыны, пасля чаго накіраваліся да месца, дзе быў усталяваны бюст святара.

Адкрывалі помнік архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій і кіраўнік Шаркоўшчынскага раёна Мікалай Баговіч. Архіепіскап нагадаў вернікам, што ў царкве, якая паўстала ў Шаркоўшчыне дзякуючы намаганням айца Канстанціна, і зараз ляжыць плітка, якую святар укладаў сваімі рукамі.

Варта адзначыць, што і духоўныя, і свецкія выступоўцы стараліся не акцэнтаваць увагу на тым, што святара замучылі менавіта новыя камуністычныя ўлады.

На помніку змешчаны словы айца Канстанціна, якія ён сказаў перад смерцю: Я нічога дрэннага не зрабіў. Што Бог спашле, тое і буду цярпець

У 2011 годзе праваслаўнай царквой айцец Канстанцін Жданаў быў прылічаны да ліку святых.



# Вада не даруе бестурботнасці

**З усталяваннем цёплага надвор'я жыхары і госці нашага горада ў вольны час выязджаюць за горад, каб адпачыць, аднавіць сілы на ўлонні прыроды. Часцяком, знаходзячыся на адпачынку, яны забываюць аб мерах бяспекі на вадзе, што прыводзіць да трагічных наступстваў, разводзяць вогнішчы ў пажаранебяспечных месцах, займаюцца незаконнай высечкай лесу і лоўляй рыбы, што ператварае іх у правапарушальнікаў.**

■ **А.І. Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

У гэтай сувязі хацелася б растлумачыць наступнае: зоны адпачынку, лясныя масівы, лужкі, берагі рэк, азёр, пляжы і г.д., з'яўляюцца грамадскімі месцамі падчас адпачынку грамадзян. Найбольш часта фіксаваныя ў месцах масавага адпачынку грамадзян правапарушэнні: распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва ў грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення (арт.17.3 КоАП РБ) цягне накладанне штрафу ў памеры да 8 базавых велічынь, у выпадку паўторнага ўчынення на працягу года – ад двух да пятнаццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт; распальванне вогнішчаў у забароненых месцах (арт. 15.58 КоАП РБ) – штраф у памеры да 12 базавых велічынь; забруджванне лесу і іншай драўняна-хмызняковай раслiннасці грамадзянамі (арт. 15.30 КоАП РБ) – штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

У мэтах выканання распараджэння Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта №65Р ад 8 красавіка 2015 года вызначаны наступныя месцы масавага адпачынку грамадзян – зоны адпачынку на азёрах Мушкат, Белае, Бяглец, Чачалі, Акунёўскае, Алойзберг, Вялікая Пліса, Кагальнае, у горадзе Глыбокае: Цэнтральная плошча, плошча 17 верасня, Парк Перамогі. Таксама рашэннем Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта №378 ад 9 красавіка 2014 года забаронена купанне грамадзян на вадаёмах, размешчаных у межах горада Глыбокае, на сажалках, затоках, кар'ерах і іншых водных аб'ектах, размешчаных на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, акрамя вызначаных месцаў масавага адпачынку грамадзян.



У 2014 годзе на тэрыторыі краіны ў вадзе загінула 628 чалавек, у тым ліку 4 чалавекі ў Глыбоцкім раёне.

Асноўнымі прычынамі гібелі людзей на вадзе з'яўляюцца: купанне ў вадаёмах, не прызначаных для гэтых мэтаў, купанне ў нецвярозым стане. Часта бескантрольнасць з боку бацькоў прыводзіць да страты іх дзяцей. Трэба памятаць, што вада не даруе бестурботнасці.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, страты блізкіх Вам людзей і дзяцей старайцеся выконваць наступныя правілы і меры бяспекі на вадзе:

■ небяспечна купацца ў нецвярозым стане, у забароненых і неўстаноўленых для гэтага месцах, выходзіць у плаванне на няспраўнай або неабсталяванай выратавальнымі сродкамі лодцы, сядзець на яе бартах, перасаджвацца з месца на месца або з адной лодкі ў іншую падчас руху;

■ купацца варта не раней, чым праз 1,5 – 2 гадзіны пасля прыёму ежы;

■ тым, хто не ўмее плаваць, нельга, карыстацца лодкамі, надзіманымі сродкамі, іншымі прадметамі, неабсталяванымі адмысловымі прыстасаваннямі для плавання;

■ нельга купацца аднаму, у цёмны час сутак, пры моцных хвалях;

■ не скачыце ў ваду ў месцах з невядомай глыбінёй і рэльефам дна;

■ не заплываюць далёка ад берага, разлічвайце свае сілы;

■ не пакідайце дзяцей каля вадаёмаў без нагляду;

■ не скачыце ў ваду з дамбаў, прыстаняў, катэраў, лодак;

■ не падавайце ілжывыя сігналы бедства;

■ не выкарыстоўвайце для плавання дошкі, бярвенне, надзіманыя матрацы, камеры аўтамашын і іншыя дапаможныя сродкі.

Захаванне названых правілаў уратуе Ваша жыццё і жыццё Вашых блізкіх.

# Біяграфія святога Канстанціна Жданава

**Канстанцін Жданаў — (22 сакавіка 1875 — 29 красавіка 1919) — праваслаўны святар, ахвяра бальшавіцкага тэрору, кананізаваны ў 2011 годзе Беларускай Праваслаўнай Царквой, пакутнік за веру.**

У 1900 годзе Канстанцін Жданаў ажаніўся, атрымаў рукапакладанне ў сан дыякана і пачаў служыць у царкве ў вёсцы Юдзішчына каля Шаркоўшчыны. Калі памёр яго бацька, Канстанцін папрасіў у духоўных уладаў дазвол перайсці на служэнне ў Шаркоўшчыну, каб дапамагаць сваім малодшым братам. 30 красавіка 1900 года ў Ковенскім Петра-Паўлаўскім саборы ён быў рукапакладзены ў сан святара, пасля чаго стаў настаяцелем прыхода ў Старой Шаркоўшчыне.

На другі год служэння айцец Канстанцін пачаў шукаць падтрымку на пабудову новай царквы ў Старой Шаркоўшчыне, бо старая царква ўжо амаль развальвалася. Епархіяльныя ўлады дазволілі будоўлю толькі ў 1906 годзе. Стары храм быў разабраны, а закладка новага адбылася 3 ліпеня 1908 года. Айцец Канстанцін шукаў сродкі ў людзей, якія выязджалі на заробкі. Каб сабраць грошы на іканастас, святару давялося ехаць у Маскву і збіраць ахвяраванні з тамтэйшых прадпрымальнікаў. Новапабудаваны Свята-Успенскі храм у Старой Шаркоўшчыне быў асвечаны 13 лістапада 1912 года.

Айцец Канстанцін быў вядомым прапаведнікам, шмат часу прысвячаў на малітву. Прыхаджане з увагай слухалі яго казанні. Таксама святар выкладаў Закон Божы ў трох вясковых школах, а ў 1916 годзе пачаў выконваць абавязкі загадчыка Беразвецкай жаночай вучэльні, якая была эвакуяваная ў Шаркоўшчыну.

Святар працягваў служэнне і пасля ўсталявання камуністычнай улады, якая разгарнула жорсткі тэрор у Дзісненскім павеце. Увесну 1919 года айца Канстанціна арыштавалі адразу пасля багаслужбы і пад канвоем перавезлі ў павятовы цэнтр. Бальшавікі расстралялі жанчын, якія спрабавалі заступіцца за святара. Айца Канстанціна павялі на расстрэл разам з айцом Міхаілам Сіняўскім, настаяцелем прыхода ў Язне. Айцец Міхаіл здолеў уцячы ад п'яных канвойраў; айцец Канстанцін не спрабаваў уцякаць. *Я нічога дрэннага не зрабіў. Што Бог спашле, тое і буду цярпець*, – сказаў ён.

Схаваўшыся, айцец Міхаіл бачыў, як п'яныя камуністы катавалі айца Канстанціна. Святара білі рыдлёўкай па галаве, адсеклі вуха, вырывалі валасы на галаве, пераламалі нагу. Перад смерцю ў яго запыталі апошняе жаданне – і святар папрасіў дазволу памаліцца. Пасля кароткай малітвы святара аглушылі моцным ударам і жывога закапалі ў яму.

Пахаваць цела айца Канстанціна ўдалося толькі праз два месяцы, пасля таго як у чэрвені 1919 года польскія войскі, падтрыманыя мясцовымі паўстанцамі, вызвалілі Дзісненскі павет ад камуністаў. Святара пахавалі ў падвале пад алтаром Свята-Адзігітрыеўскай царквы ў Дзісне.

Мясцовае насельніцтва дзесяцігоддзямі захоўвала памяць пра айца Канстанціна Жданава. У 1995 годзе ў шаркоўшчынскай царкве пачалі служыць адмысловыя набажэнствы ў памяць святара-пакутніка. У 2010 годзе Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл даў дабраславенне на кананізацыю святара. Урачыстае далучэнне айца Канстанціна Жданава да ліку святых адбылося 4 чэрвеня 2011 года ў Свята-Уваскрасенскім храме Дзісны. У гэтым жа храме цяпер захоўваюцца мошчы пакутніка.

*Паводле Вікіпедыі*




**Надпіс на помніку святару.**

# А прыбіраць навошта, галоўнае – больш рыбы злавіць

## Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету правялі мерапрыемствы па ўборцы берагавой лініі возера Белае

**У Рэспубліцы Беларусь ужо не першы год па ініцыятыве праўлення Рэспубліканскага савета Рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» праводзіцца акцыя «Чысты вадаём». Не выключэннем стаў і 2015 год, з 24 па 30 красавіка на тэрыторыі ўсёй краіны тысячы грамадзян праводзілі ўборку і ачыстку вадаёмаў.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

28 красавіка 2015 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі Глыбоцкай раённай арганізацыйнай структуры дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» правялі мерапрыемствы па ўборцы берагавой лініі возера Белае паблізу в. Чачалі Глыбоцкага раёна. З берагоў возера было ўбрана больш за 20 мяшкоў рознага бытавога смецця, пластыкавыя і шкляныя бутэлькі, пакеты ад рыбалоўных прыкормак, пластыкавыя шкляначкі, дзіцячыя падгузнікі. Цікава, што год таму возера было таксама прыбрана.

Асабліва шмат бытавога смецця знаходзілася ў месцах рыбнай лоўлі, так званыя рыбаловы забруджваюць берагі вадаёмаў больш за ўсіх, тара з-пад насадак, пласцікавыя бутэлькі, пакеты з-пад прыкормкі, бутэлькі ад спіртнога, бітае шкло ў месцах адпачынку грамадзян - гэта далёка не ўвесь пералік пакінутага імі смецця.

Міжраённая інспекцыя інфармавала грамадзян пра дзень правядзення акцыі, але ні адзін з рыбаловаў не выявіў жадання паўдзельнічаць у акцыі, не паступіла ні аднаго званка, адны толькі пытанні да інспектараў, колькі можна вуд закінуць, вылавіць рыбы і г.д. А прыбіраць навошта, галоўнае - больш рыбы злавіць ды смецце выкінуць, а прыбіраюць хай іншыя.






Падчас уборкі возера супрацоўнікі інспекцыі ўбачылі рыбалова-аматара і прапанавалі паўдзельнічаць ва ўборцы возера, на што апошні ў грубай форме адказаў: вам трэба, Вы і прыбірайце. У месцы, дзе рыбалоў лавіў рыбу, увесь бераг быў засыпаны смеццем, але прыбраць яго горарыбалоў нават і не збіраўся. Інспектарамі ў адносінах да рыбалова распачаты адміністрацыйны працэс.

Пункт 98 абзац 6 абвяшчае:

**Рыбаловы, якія ажыццяўляюць аматарскае рыбалоўства, абавязаны:**

■ **падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах, а таксама на лёдзе смецце і іншыя адкіды, не дапускаць засмечвання і забруджвання рыбалоўных угоддзяў іншым чынам...**

Гэта значыць, што рыбалоў, прыйшоўшы на месца лоўлі рыбы, абавязаны прыбраць усё смецце, якое знаходзіцца ў месцы лоўлі, незалежна кім яно было пакінутае, інакш ён можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі будзе актывізавана работа па прыцягненні рыбаловаў-аматараў да адміністрацыйнай адказнасці за невыкананне патрабаванняў Правілаў рыбалоўства.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да запарушвання лясоў, браканьерства. Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія» – кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.



## Віншаванкі

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Тебя Наталией, Натальей,
Наташей можно называть.
Твоих поступков и желаний
Никто не может предсказать.

Ты переменчива, как море,
То в затишье, то штормишь.
От ласк твоих и от укоров
Не ускользнешь, не убежишь.

***Бацька, маці, сятра, пляменніца***

## МНС інфармуе
**на 05.05.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 325;
Гібель людзей – 49, з іх 2 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 12;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –265 млн. руб.

# Усе бачаць, але маўчаць, бо кінулі ж не да мяне ў агарод

**Рэспубліка Беларусь здаўна славілася сваімі прыроднымі багаццямі. Толькі фонд рыбалоўных угоддзяў у цяперашні час складае больш за 10 тысяч азёр агульнай плошчай 134 тыс.гектараў, 80 тысяч гектараў вадасховішчаў, 90 тысяч кіламетраў вялікіх і малых рэк. Агульная плошча паляўнічых угоддзяў у Беларусі складае больш за 18 мільёнаў гектараў.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Знадыходам вясны і цёплых дзён насельніцтва актыўна займаецца агародамі і прысядзібнымі ўчасткамі, грамадзяне пачынаюць паліць траву, іржышча, мяркуючы па сваёй наіўнасці, што тым самым яны палепшаць сенажаці. Але ж падчас спальвання сухой травы ў першую чаргу гіне каранёвая сістэма лепшых траў, а замест траў багата пачынае расці пустазелле. Падчас пажараў шмат гіне птушак, маладняк зайца-русака і іншых дзікіх жывёл.

За выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэштках на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў на зямельных участках – цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь. А вось у Эстоніі за падобнае дзеянне штраф складае да 1000 долараў ЗША. Таму грамадзянам трэба задумацца, бо спальванне сухой травы можа прывесці да чалавечай трагедыі, гібелі маёмасці. З законам гуляць не варта.

Шмат на тэрыторыі раёна і несанкцыянаваных звалак. Прыбіраючы назапашанае за зіму смецце, грамадзяне вывозяць яго ў лес, бліжэйшыя хмызнякі, але гэта ўсё незаконна і пагражае вялізным штрафам. Смецце вывозяць у лес паблізу вёсак, пакідаюць уздоўж дарог, каля вадаёмаў. Атрымліваецца як у дрэннай гаспадыні – смецце змялі ў кут і прыкрылі венікам, жывём як на сметніку, усе бачаць, але маўчаць, не хочуць сварыцца, бо кінулі ж не да мяне ў агарод. Толькі за мінулы тыдзень супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі за забруджванне драўнянахмызняковай расліннасці і прыбярэжнай зоны вадаёмаў прыцягнута да адказнасці двое грамадзян.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў узмацніць меры адказнасці за выкіданне смецця не толькі ў лясах і на азёрах, але ўздоўж дарог, у населеных пунктах. Жыхары раёна вельмі часта ператвараюць аўтобусныя прыпынкі, прыдарожныя канавы ў звалкі, маўляў, дарожныя службы прыбяруць. Але дарожныя работнікі не прыбіральшчыкі. Парушальнікаў заканадаўства чакае грашовы штраф.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да засмечвання лясоў, браканьерства. Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі:2-86-70 «гарачая лінія» – кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.



**Хтосьці вывез смецце ў Барок.** *Фота Валянціна Лупача*

